# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

...„Падыймайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.





№ 6 (105) Vilnia, Červień 1937 h. Hod IX.

UVAHA! NOVAŚĆ! UVAHA!

# Cennyja premii dla akuratnych padpiščykaŭ „Šlachu Moładzi"!

## Niabyvałaja akazija zusim darma vyjhrać hadzińnik, sekatar, nažy da ščapleńnia dreŭ, cennyja knižki i inš. rečy.

Administracyja „šlachu Moładzi" pastanaviła sioleta vosieńniu raździalić miž akuratnych svaich padpiščykaŭ premii za ichniuju dbajnaść. Premii buduć padzieleny darohaj losavańnia, da jakoha buduć dapuščany tolki tyja padpiščyki, katoryja apłacili, abo jašče apłaciać padpisku na „šlach Moładzi" za hety sioletni 1937 h. (usiaho tolki dva złotyja).

### Śpis hałaŭniejšych premijaŭ:

1. Dobry hadzińnik na ruku.
2. Sekatar (nožnicy da abrazańnia halinak dreŭ).
3. 2 nažy da ščapleńnia dreŭ.
4. „Гісторыя Беларускай Крыўскай Кнігі" В. Ластоўскага, якая ў прадажы каштуе 15 зл.
5. „Пчолы" — кніга аб пчалаводзтве Пачопкі.
6. „Гісторыя Беларускай Літаратуры" М. Гарэцкага.
7. „Географія Беларусі" Смоліча.
8. „Хрыстаматыя Беларускай літаратуры" Дварчаніна.
9. Hramafonnaja plitka z biełaruskim narodnym tancam «Lavonicha» i z pieśniaj „A u lesie, lesie" ŭ vykanańni słaŭnaha tenara M. Zabejdy-Sumickaha.
10. Partret biełaruskaha paeta M. Bahdanoviča.

*Aprača hetaha hatujem niespadzieŭku ŭsim akuratnym padpiščykam.*

Dyk chto choča być u liku dapuščanych da losavańnia premijaŭ, niachaj zaraz pastarajecca apłacić padpisku. Chto-ž padpiski nie apłacić, toj nia budzie pryjmać udziełu ŭ losavańni i tamu vysyłka „Šlachu Moładzi" budzie strymana! Užo vysyłku hetaha numaru strymali dla 37 asob i dalej budziem ustrymlivać usim inšym, što nie apłaciać naležnaj padpiski.

Treba pamiatać, što svaja presa, svaje časapisy, najlepš baroniać i infarmujuć. Tamu, biełarusy pavinny padtrymlivać svaju presu i pašyrać jaje, zdabyvajučy novych padpiščykaŭ. Biełaruskaja moładź pavinna pieradusim vypisvać i pašyrać „ŠLACH MOŁADZI"!

*Administracyja „Šlachu Moładzi."*

„Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Падпіска на 1 месяц 20 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл., на год — 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Адрыс Рэдакцыі: Вільня (Wilno), Завальная вуліца № 1—2.

// Шлях Моладзі
ІЛЮСТРАВАНЫ МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Год IX. Вільня, Чэрвень 1937 г. № 6 (105).

*Міхась Машара*

## Нашыя шляхі

Як глянеш так на сьцежкі за сабою,
як сумна даль тых пройдзеных дарог,
ні сьветлых дзён, ні ласкі, ні спакою,
бурлівы вір змаганьня і трывог.

У гэты сьвет прыйшлі мы ў час шалёны
жыцьцёвых бур, пажараў і бяды.
Пад горам гнуць сьпіну і біць паклоны
ня можым мы — як нашыя дзяды.

З душой разбуджанай ад доўгай сьпячкі
ідзём па роднай і жывой зямлі.
Зрываем з плеч сваіх лахман жабрацкі
і птушкай сьпеў нясём у далані.

Пра радасьць думаць мы ня маем часу,
пра шчасьце чулі толькі ад людзей.
Ляжыць цямра яшчэ на сьцежках нашых,
а трэба йсьці усьцяж — далей, далей!

Таболы, 23.IV.37.

*С. Гаротны*

* * *

Я сэрца сваё хачу ў рыфмах расплавіць,
Расплёскаць душы маладое задор,
І з зрэбнае ніткі рукою каравай
На сонечных кроснах ткаць шчасьця узор.
Гады маладыя ў імгле адцьвітаюць,
Шчасьлівых хвілінаў ня бачыў на'т ў сьне.
Няхай-жа хоць ў вершах бурліва зазьзяюць
П'янаю радасьцю думкі мае.
Я веру, што доля яшчэ усьміхнецца,
Асыплюцца лісьцем пажоўклыя дні.
Таму й мая песьня задорам сьмяецца,
Таму ў ёй зіхцяцца уздыму агні.
Я волю жаданую ўсьцяж буду славіць,
Слаць думкі душы у радзімы прастор.
Я сэрца сваё хачу ў песьнях расплавіць
І песьнямі выткаць дзён новых узор.

# Коопэрацыя і беларуская моладзь.

*(У Дзень Коопэрацыі).*

Слова коопэрацыя, якое выводзіцца ад лацінскага: *coopero* і значыць: — раблю разам, супольна — для ўсіх бадай добра знаёмае. Ведаем так-жа, што коопэрацыя нясе вялікую ідэю вызваленьня грамадзянства ад усялякага гнёту, бо самай галоўнай асновай коопэрацыі ёсьць імкненьне да *палепшаньня быту,* да шчасьця для людзей. Коопэрацыя ў імя абароны слабых і пакрыўджаных выступае супроць залежнасьці чалавека ад капіталу, зашчапляе людзям пагляд ідэалістычны, дбаючы адначасна аб іхні матар'яльны дабрабыт.

Да ўсяго гэтага просіцца аднак маленькая засьцярога. *Коопэрацыя дзеіць належна тады, калі трапіць на добры грунт, г. зн. на людзей, якія яе зразумеюць, будуць да яе падгатаваны і калі вонкавыя сілы не пачнуць яе крыўляць.* Засьцярогу гэну, між іншым, дасканальна нам ілюструе гісторыя разьвіцьця коопэрацыі ў нашым краі.

Як ведаем, пасьля Сусьветнай Вайны, коопэрацыя, трапіўшы на беларускі грунт, пачала буйна разьвівацца. Але аказалася, што— не гаворачы ўжо аб націску вонкавых сілаў—ані кіраўнікі гэтае коопэрацыі, ані шырокія масы ўчасьнікаў ня былі падгатаваныя. У коопэратыўных крамах пачаліся кражы, прыватны гандаль, а пайшчыкі іх больш куплялі тавару ў прыватных крамах, як у сваіх коопэратыўных. У такіх абставінах коопэрацыя мусіла збанкрутаваць — і збанкрутавала.

Прайшло некалькі год, людзі забыліся аб тым, што было,—прыйшло новае, маладое пакаленьне і ідэя коопэрацыі ў нас йзноў аджыла. Пачаліся новыя натугі. За гэны-ж аднак час, як кажуць, „многа вады ў рэках уцякло". Паразумнелі нашы людзі, але *зьмянілася палажэньне, зьмяніліся законы.* Апрача таго *коопэрацыю, як і ўсё гаспадарчае і прамысловае жыцьцё сцэнтралізавалі,* а дзякуючы гэтаму розныя *„крэсы" знайшліся ў далёка горшых абставінах, як цэнтр*).* Такая-ж пастаноўка не памагае разьвіцьцю коопэрацыі ў масах, а стрымлівае яе. Нават сярод найвялікшых прапагатараў коопэрацыі адчуваецца знеахвочаньне да яе. Паўстала проста пытаньне: Што рабіць? Праводзіць далей коопэрацыю, ці агулам яе закінуць і шукаць новых дарог? - І так кепска і так ня добра. — Бо і на новых шляхох знайдзецца гэтулькі перашкодаў, што ўсю энэргію могуць спыніць. А знача, ня глядзячы на ўсе нявыгады, трэба ўсё-ж *арганізаваць і пашыраць коопэрацыю.*

У працы на коопэратыўнай ніве мусім перадусім памятаць аб старых абмылках, якія раз ужо затрымалі ў нас разьвіцьцё коопэрацыі, старацца, каб яны не паўтараліся і *кіравацца перадусім дабром мясцовага насельніцтва, не забываючыся аб роднай адраджэнскай беларускай культурна-асьветнай ніве.* Перад адчыненьнем коопэратывы трэба прыгатовіць грунт — людзей, вучыцца самым і вучыць другіх працаваць.

Нам, маладым, коопэрацыя сваім духам і барацьбой за новага чалавека, за новы лад, ёсьць найбліжэйшай і дзеля гэтага мы перадусім павінны заняцца пашыраньнем яе, і жыцьцё свае будаваць ад самага пачатку на *асновах коопэратыўных.*

Я. Н.

---

*) Сьцьвердзіў гэта між іншым і дыр. Бараньскі сёлета на зьезьдзе „Zw.Roz.Z. Wsch." ў Вільні. („Kur. Wil." 143 z 27.V.37).

*Maksim Tank*

## Z TYCH DZION

Ad daždžoŭ sivych haściniec
i piasok nabrak i spuch,
tolki viecier jarka sinić
chmaraŭ biełych lotny puch.

Uciakło pad sonca nieba,
nie dastanieš kačarhoj;
załatoha boru hrebień
pachnie šyškami, smałoj.

Nohi hraź syruju miesiać...
zajac spudžany uciok,
i savoj padniaŭsia miesiac,
krylli vyciahnuŭšy — zmrok.

Ja zapieŭ, a recha boru
u mianie nad hałavoj,
razahnała stada zoraŭ —
załaty żviniačy roj.

Nu, čamu, čamu vas spudziŭ?
Nu, viarniciesia nazad, —
viesialicca razam budziem,
ja vaš blizki, rodny brat.

I pa šyškach i pa tropach
z kamarynym zvonam zor
miesiac kryllami załopaŭ,
apadajučy za bor.

Prylacieli dzivy-ptuški
i z łahoŭ lasnych źviary,
pad sasnovyja častuški
pjany viecier zaviryŭ...

Z tych dzion poŭnych čaraŭ-kazki
pad napieŭ darožnych łoz
staŭ ja pieśniarom sialanskim
ściežak, nivaŭ i biaroz.

12.IV.37.

---

*Harasim Pramień*

## DAŽDŽOM

Voś chmara niečakanaja,
Jak sivy miech najechała,
Kaŭšom ziarniaty siejała —
Piła ziamielka kaplami.

Z strech małakom cadziłasia —
Vada płyła rynštokami,
U šumie zakruciłasia
I paciakła z padskokami.

Praplyŭšy ahlanułasia, —
Admieniena ŭsio stałasia,
Ŭ darohu — dal papchnułasia,
I sonca pakazałasia.

A perły — srebra pacierki
Kałocić viecier z liściejka.
I liža sonca z žadnaściu
Ziamielki plečy mytyja.

---

*Michaś Vasilok*

* * *

Hladzieła jasna sonca z nieba,
sady źvinieli rojem pčoł,
a na zialony lesu hrebień
rasčesvaŭ viecier majski šoŭ.

Chudymi žoravami mieryć
pajšli siaŭcy uzdoŭž pałos.
Im śpieŭ ziarniat dušu badzioryć
pad homan miežavych biaroz.

Ralla, ralla, ciabie taptali
ŭžo kolki novych pakaleńniaŭ!
Ech, šmat čaho tut skažuć dali
ab pracy mazalistaj žmieni...

Plačmi pryhon dziady karmili...
hady šypšynaj adćvili,
i na dvaccataj, — vieku — mili
kujom dni novyja ziamli.

Skrabuć hallom pa rečcy łozy,
zadorać pieśniu sałaŭja,
z tvaich vačej satrom my ślozy,
pracoŭna Biełaruś maja!

1937—maj.

*Натальля Арсеньнева.*

# Лілейкі.

(*Казка*).

На цёмнай гладзі сонных луж балота,
За сьнег нябеснай вышыні бялей,
Кругом паўсталі чашачкі лілей
Між пачарнеўшых каранёў чарота.
М. БАГДАНОВІЧ

Сее вецер цераз сіта
Сонца жоўтыя зярняты
У ральлю зямлі нясытай,
Недаткнёнай, непачатай.

Бор кругом і няужыткі.
Ялаўцы, імхі, брушніцы
Абхінулі шэрай сьвіткай
Цела шорсткае зямліцы.

А ў нізе, ў чаротах хворых,
Бы ў глінянай жоўтай місе, —
Разьліліся ў шыр вазёры...

Скуль, калі яны ўзяліся
Між пяскоў і мхоў бясплодных,
Хто разьліў іх, хто засеяў
Асакой сівой, надводнай,
Беляй зорнаю лілеяў?

Эх, даўно, калі — й ня ў памяць
Людцам, птушкам пералётным,
Тут бялілі ў дзень вясьняны
Дзеўкі шэрыя палотны.

І расьцягвалі па росах
З ручнікамі смутак ёлкі,
Тканы кужалем у кроснах
Няжывым, зімовым золкам.

Выпівала прагавіта
Сонца вільгаць з палатнінаў,
Залаціла лог расшыты
Жаўцінёю, зелянінай,
Залаціла, твары й косы
Нізка схіленых дзяўчатаў,
Бо хацела, каб ўваскросла
Шчасьце ў сэрцах іх зацятых.
Але знаць зіма глухая,
Гора й цемра ў хатах чорных,—
Не пасьпелі ў думках стаяць...
Трудна жалі з сэрца згорнуць,
Нават сонца ў міг ня ўзрушыць
Сэрцаў, п'яных ад палыну.

Хмурна, моўчкі, непарушна
Дзеўкі слалі палатніны.
Усьцяж мачылі іх і слалі,
А з-пад пальцаў іх няўпынных
З палатном сівым сплывалі
Й маладой вясны хвіліны.

І было паўдня... З-пад бору
Выйшла шэрая жабрачка...
Ў рызманох падзёртых горам,
З тварам жоўтым ад нястачаў,—
Выглядала яна зданьнем,
Сьведкай частых сьлёзаў, сконаў,
Запярэчаньнем вясьняных
Перагудаў, перазвонаў.

Падыйшла і перацяла
Бель палотнаў ценем чорным,
Пахілілась, зашаптала
Над тканінаю вузорнай.

— „Дайце, дзеткі", папрасіла
Палаценца на кашулю.
На шляхох зьвяла я сілы,
Скора сьмерць мяне прытуліць.
Як тут легчы ў дамавіну
Без кашулі новай, белай...
Ўжо-ж адрэжце палатніны,
Мае дзевачкі, згалелай..."

Адхінулісь неахвотна
Ад работы распачатай,
Над жабрачкаю гаротнай
Засьмяяліся дзяўчаты.
Пакаціўся сьмех нягодны
Па траве расою горкай,
Адгукнуўся рэхам зводным
Аж пад борам, пад узгоркам.
А тады дзяўчаты й лаяць
Пачалі, і гнаць старую...
(Сэрца цьвёрдае бывае
У таго, хто век гаруе.)

---

Матылі над логам сонным
Чуць зьвінелі крыльлем сінім.
Адыйшла старая з гоні,
Затрымалась пад асінай.
І падняўшы кій жабрачы

У гару, у сінь паднеб'я, —
Заняслася крыкам—плачам,
Затраслася кучай зрэб'я:

—„Будзьце-ж прокляты на векі
Вы за сэрцы, як каменьні,
За насьмешкі над калекім,
За зацятыя сумленьні!
Праклінаю вас праклёнам
Моцным, страшным, непарушным:
Хай вас кужаль пабялёны
Абхіне, спаў'е, задушыць.
Шкадавалі мне кусочка
На сьмяротную кашулю, —
Хай жа ж белаю сарочкай
Вас праклён навек атуліць!
Хай зрасьцецца з белым целам
Бель гладкая палатніны,
Хай дрыгва балот сплясьнелых
Будзе вашай дамавінай!..."

...Дзіка крыкнула жабрачка,
Трэйчы сплюнула сьліною
І разьвеялась нязначна
Над зялёнай лагчыною...

Раптам цень зваліўся чорны,
Ветры буйныя ўзьняліся,
Па над немым логам, борам
Хмары дымам павіліся.
Наляцеў віхор шалёны,
Даль заткаўшы цемрай слотнай,
Загудзеў, завыў праклёнам,
Зьвіў, паскручываў палотны,
Сьцюжай дзікай сьціснуў целы
Немых спуджаных дзяўчатаў,
Палатнянай белай беляй
Акруціў іх шчыльна, гладка...
І ўпілася прагавіта
Ў бель грудзей малых, дзявочых
Бель сівая васьмінітаў,
Бельмам кінулась на вочы...

Ураз магутны гром ударыў...
Сьцяў душу жудой сьмяротнай.
І лінуў з грымотных хмараў
Дождж халодным, вострым дротам.
Ліў і ліў няўпыннай хваляй,
Змыў да чыста лог вясьняны
Аж вазёры там паўсталі
Ў берагох пустых, гліняных.
І туды дзяўчаты ў белі
Паплылі з дажджом — завеяй,
На ваду мутную селі —
Палі кветкамі лілеі.

Палі дзеўкі на вадзіцы,
Урасьлі у дно нагамі;
Нема жаліцца, прасіцца
Пачалі між берагамі:
—„Ой, ня йдзі, не бяжы, мамка [родная,
Ў неўзаранае поле, ў бясплоднае,
Ня шукай, ня гукай ты нас, мамачка,
Ані познай парою, ні ранічнай,—
Ўжо ня знойдуць да хаты [дарожанькі
Амярцьвелыя нашыя ножанькі.

Нашай хатай — вазёры глыбокія,
Нашай маткаю — ноч сінявокая,
Бацькам — месяц нямы, [раззалочаны,
А братамі — рудыя чароціны.
Заняла нас вадзіца сьцюдзёная,
Спавіла нас травіца зялёная,
Сьвет закрылі нам аеры роўныя,
Сэрцы сьцяла туга безназоўная.
Нашай доляю—роспач сьмяротная
Ой і долячка-ж наша гаротная".

Змрок расу перасыпае
У далонях цёмных, шэрых,
Змрок туманы навівае
На высокі, мокры бераг.
Ноч прадзе на калаўроце
Срэбна-сінюю кудзелю, —
Сьпяць лілейкі у чароце,
Ў снах палотны ў лузе сьцелюць.
Выжынае сонца-жнейка
Серпам цені над асокай, —
Прачынаюцца лілейкі,
Абтрасаюцца з урокаў,
І надзеяю трапечуць,
І ўзіраюцца ў нябёсы,
Аж пакуль нанова вечар
Не пральле над імі росаў,
Аж пакуль сьляпой савою
Ноч ня сядзе на галіне,
Й не пакрые ўсё жывое
Сном — сьмяротнай палатнінай.
Моцны злы праклён на векі.
Будуць вечна спаць лілеі
Ў чаратох сухіх, калекіх
Без палёгкі й без надзеі.
Будуць вечна ў ціне стынуць,
На вадзе хістацца гразкай...

Ня лілейкі-ж, а дзяўчыны
Гэта, проклятыя ў краскі!

# Ці патрэбны спорт на вёсцы?

*(З прычыны 3-цяе Работніцкае Олімпіяды).*

Спорт у нашым двацатым стагодзьдзі з кожным днём займае што-раз паважнейшае месца. Асабліва ім цікавіцца інтэлігенцыя і людзі багацейшыя, каторыя фізычна не працуюць, лішне сохнуць або жырэюць. У сувязі з гэтым натварылася мноства розных спартовых арганізацыяў, якія ўзгадоўваюць фізычна сваіх сяброў і ладзяць спартовыя ігры. Зацікавіліся спортам і дзяржаўныя ўлады. А дзеля таго, што спорт адыгрывае паважную роль у ваенным прыспасабленьні і мае вялікае значэньне для агульнага стану здароўя людзей, увялі спорт у школы, войска і пільна ім апякуюцца.

Олімпіяды, міжнародныя спартовыя ігры, якія калісь адбываліся ў старадаўнай Грэцыі, і ўзноўленыя ў 1896 годзе, набіраюць што-раз большага значэньня. Дзеля арганізацыі іх існуе сталы олімпійскі міжнародны камітэт, каторы толькі і думае аб тым, як найлепш і дзе ладзіць олімпіяды.

Прапаганда спорту на заходзе Эўропы і ў Амэрыцы на толькі шырока разьвіта, што ім цікавіцца ня толькі інтэлігент і буржуй, але работнікі — пралетары і сяляне. Работнікі, так як і інтэлігенцыя, маюць свае спартовыя арганізацыі, ладзяць спартовыя ігры і нават свае работніцкія олімпіяды. Сёлета якраз ад 25-га ліпня да 1-га жніўня мае адбыцца ў Антвэрпіі (Бэльгія) 3-цяя Работніцкая Олімпіяда. Разьвіваецца так-жа спорт і ў СССР.

Словам, спорт цяпер усюды пашыраецца. Міма аднак гэтага для беларускай вёскі ён вельмі далёкі. Праўда, з малых гадоў моладзь наша гуляе ў розныя народныя спартовыя гульні, як Пікара, Кацёлкі, Сьвінку, езьдзіць на лыжвах, робіць выперадкі на конях і інш., але пасьля, як падрасьце, забывае аб гэтым і нават стыдаецца аб іх успамінаць. У гэты-ж час пачынае гуляць з сьвінцоўкамі, каламі і нажамі, ад якіх не аднаго пасьля садзяць у вастрог і не аднаго вывозяць на вечнае спачываньне ў расьцьвеце сілаў на могілкі. На сучасны спорт і спартоўцаў сяляне і вясковая моладзь глядзіць, найчасьцей, як на абібокаў, гультаёў і ім падоб., а на спартовыя касьцюмы, як на нешта непрызваітае. І трэба сказаць, што ў гэтым ёсьць многа праўды. Сучасны спорт у многіх выпадках у сваей ідэі моцна скрыўлены. Ёсьць напрыклад людзі, якія займаюцца спортам — бегаюць, іграюць у футбал, б'юцца на бокс не дзеля таго, каб быць здаровымі, але каб гэткім спосабам зарабляць грошы, ды каб узгадаваўшы ў сабе сілу, кіравацца ёю, забываючыся аб духовых патрэбах, без каторых чалавек стаецца быдлём. Узноў-жа спартовыя, купальныя касьцюмы, асабліва дзяўчаты накладаюць і абрэзваюць іх як найкарацей не дзеля таго, каб лепш было рабіць гімнастыку, каб магчы не хаваючыся плываць і купацца, але каб паказваць як найбольш голага цела... У гэтым, бязумоўна, праяўляецца дэморалізацыя і распуста...

Адкінуўшы аднак праявы спартовага збачэньня, сам спорт ёсьць вельмі патрэбны і пажаданы для ўсіх, а ў гэтым ліку і для нас беларусаў. Але ў нас з пашыраньнем нават спорту, таксама як і з кожнай беларускай акцыяй, справа ня лёгкая. — Ня лёгкая-ж яна таму, што ня маем сваіх

спартовых арганізацыяў, ды і мецъ іх здаецца ня скора будзем, бо ўсе дасюлешнія натугі стварыць спартовую беларускую арганізацыю разьбіваліся на адмове адміністрацыйных уладаў легалізаваць іх. А знача і спорт, так як і асьвету, беларусам трэба пашыраць саматужна, шляхам прыватнай групавой працы. Калі-ж дзе ёсьць арганізацыя Пажарнай Стражы, дык можна вельмі добра яе на гэта выкарыстаць. — Вялікай так-жа перашкодай у пашыраньні спорту зьяўляецца перакананьне нашых сялян, што:



Himnastyčnyje ćvičeńni na plažy.

ім, цяжка-працуючым, спорт, гімнастыка не патрэбны. Мы — кажуць сяляне — спорту маем даволі пры працы. — Гэткае цьверджаньне наскрось мыльнае і фальшывае. Бо чалавек пры пра-

цы пераважна выконывае рухі і натужваецца ў адным кірунку, а для нармальнага разьвіцьця арганізму трэба, каб яны былі featuring рознастайныя і больш-менш роўнамерныя. І гэта можна асягнуць іменна займаючыся спортам. Не канешна пры тым займацца спортам цяжкім, бо можна і лягчэйшым, г. зв. лёгка-атлетыкай: бегі, скокі, шпуляк (сеткаўка), водным спортам — летам, лыжвы, санкі — зімой і ім п.

На колькі прыемным і карысным спортам улетку ёсьць водны спорт: еджаньне лодкамі, плываньне, купаньне — хіба казаць ня трэба, бо кожны добра разумее, хто хоць раз яго спрабаваў.

Апрача карысьцяў чыста фізычных, спорт можа нам даць многа карысьцяў духовых. Калі-б у нас паўставалі спартовыя групы і клюбы на вёсках, вялі між сабой ігры, — магчыма, што згінула-б найбольшая нашая балячка і няшчасьце — братабойчыя дзікія бойкі сярод моладзі, якая магла-б тады выладоўваць лішнюю сваю энэргію на футбале, бегах, скоках, плываньні і інш. спартовых іграх. І гэта можа найбольшая прычына, дзеля якой *і на нашай беларускай вёсцы трэба пашыраць спорт.*

*Я—к.*

---

*Тацянка*

## ДУМЫ Ў ПОЛІ

Ой каротка ночанька на сьвятога Яна;
Думала Ганулька, ў полі як стаяла,
Ой стаяла ў полі, ды на раздарожжы,
Абапёршысь сумна ля старой бярозы:

„Тры дарожкі ў полі, тры жыцьця дарожкі,
Куды-ж, сірацінка, пушчу свае ножкі? —
Дзьве дарожкі гладкі ды зайшлісь імглою,
Трэця ў каляінах зарасла травою...

Ой пайду па першай імглістай сьцяжыне,
Там мілы кахае, ніколі ня кіне.
На другой сьцяжыне панскія палацы
Прыгорнуць сіротку, буду жыць бяз працы...

Ой чаму-ж мілейша трэцяя сьцяжына,
Што пайшлі ўсе нашы?..." — думае дзяўчына,
„Там крывавяць ногі, ў твар пяскамі рэжа —
Але ў далі зоры зьзяюць безбярэжна ..

Не хачу каханьня, ні панскае ласкі,
Ой пайду дарогай, каляінай цяжкай.
Там зара зайграе ў перашуме сосен
Там зазвоняць песьні залатым калосьсем.

*Янка Чорны*

## КАВАЛЮ

Выкуй, браце, плуг сталёвы
Селяніну бедаку,
Каб ён мог з надзеяй новай
На сваім гараць шнурку.

І каб мог ён гэтым плугам
Усю нядолю загараць, —
Мог засеяць, хоць з натугай,
Лепшых жніваў дачакаць!

# Na šlachu raźvićcia biełaruskaj litaratury

Biełaruskaja litaratura adradženskaj pary ŭ svaim raźvićci prajšła vielmi cikavyja etapy. Kryteryi, jakija tasujucca dziela padziełu biełaruskaj, jak i kožnaj inšaj, litaratury na etapy, zvyčajna znachodziacca ŭ katehoryjach ideolohičnych i farmalna-mastackich, vyražanych u henaj litaratury, a jakija svaim paradkam paŭstali, skazaŭ-by, dziakujučy patrabavańniam, vynikajučym z ekanamičnaha, socyjalnaha, palityčnaha i kulturnaha pałažeńnia narodu, a takža dziakujučy roznym ahulnym ideolohičnym hramadzka-palityčnym i litaraturnym kirunkam dy ŭpłyvam.

Ad pačatku XIX vieku da 90 ch hadoŭ jaho, da ŭstupleńnia ŭ biełaruskuju litaraturu pieršaha nacyjanalnaha paeta, Franciška Bahuševiča, jana, ahułam kažučy za vyniatkam pieršaha sialanskaha paeta Paŭluka Bachryma, tvaryłasia piśmieńnikami, jakija dziakujučy svajmu sacyjalnamu stanovišču, dziakujučy prynaležnaści da abšarnickaj i šlachockaj polskaj ci rasiejskaj sfery, ideolohična i palityčna čužoj da biełaruskaha narodu, nie mahli ci nia ŭmieli vyrazić u joj (litaratury) istotnych patreb i intaresaŭ hetaha narodu. Hetyja piśmieńniki pisali, a lepš prabavali pisać pabiełarusku pad upłyvam romantyzmu, jaki raźvivaŭ zamiłavańnie da narodnaha žyćcia i tvorčaści, a takža — paźniej — dziela palityčnych mierkavańniaŭ na karyść utračanaj Rečypaspalitaj z adnaho boku — u piśmieńnikaŭ z apalačanaje šlachty — na karyść „matuški Rasiei" — z druhoha boku ŭ piśmieńnikaŭ rasiejskaj kultury. Z hledzišča farmalna - mastackaha, tvory ichnija, pisanyja pieravažna vieršam, majuć narodny i etnohrafičny charaktar. Da hetych piśmieńnikaŭ naležać: aŭtar „Eneidy navyvarat", Jan Barščeŭski, uspomnieny ŭžo nami sialanski paet Paŭluk Bachrym, — da 1831 h., paźniej niaviedamy aŭtar viedamaha tvoru „Taras na Parnasie", Aleksandar Rypinski, Jan Čačot, samy vydatny biełaruski piśmieńnik 50-ch hadoŭ i ŭsiaho XIX vieku da Bahuševiča — Vincuk Dunin-Marcinkievič, Pavał Špileŭski, Arciom Dareŭski-Viaryha i inš.; aŭtary palityčnaj litaratury 50-ch i 60-ch hadoŭ, pisanaj pabiełarusku: dyktatar Litvy i Biełarusi, słaŭny Kastuś Kalinoŭski, Vinceś Karatynski i inš.; paśla zabarony biełaruskaha druku aŭtary rukapisnaj litaratury 70–80-ch hadoŭ, jak Feliks Tapčeŭski i inš.

Ad 90-ch hadoŭ biełaruskaja litaratura ŭstupaje na novy šlach, u peryjad narodnicki. Vyražaje masavyja mužyckija nastroi i imkneńni, nacyjanalnuju i sacyjalnuju śviedamaść, jak hałoŭnuju jaje prymietu. Raspačaŭ jaje Francišak Bahuševič — hety pieršy biełaruski nacyjanalny paet, — tvorčaść jakoha kładziecca mahutnym kamieniem pad biełaruski ruch. Biełaruskaja litaratura, pačynajučy ad Bahuševiča, vykazyvaje asablivaści biełaruskaha nacyjanalnaha duchu, usie tyja rysy charaktaru biełaruskaj nacyi, jakimi jana vyznačajecca siarod druhich eŭrapejskich narodaŭ. U hetuju narodnickuju paru vystupajuć hetkija biełaruskija paety i piśmieńniki: Jan Niasłuchoŭski, Adam Hurynovič, Aleksandar Jelski, Alhierd Abuchovič i inš.

Narodnickaja para padrychtavała novy peryjad u biełaruskaj litaratury, h. zv. našaniŭski, jaki tryvaje ad 1905 h. (ad vychadu ŭ śviet biełaruskaha časapisu „Naša Niwa") da suśvietnaj vajny. U hetym peryjadzie vyrastaje ce-

łaja plejada biełaruskich paetaŭ i piśmieńnikaŭ z adradženskaj ideolohijaj, — Karuś Kahaniec, Jadvihin Š., Ciotka, narodnyja paety Kupała i Kołas, Aleś Harun, Maksim Bahdanovič, Źmitrok Biadula, Ciška Hartny, K. Bujło, A. Paŭłovič, Fr. Alachnovič i inš. U hety peryjad biełaruskaja litaratura pavažna ŭzrasła. Niekatoryja tvory asiahajuć takuju mastackuju vyšyniu, što zajmajuć pačesnaje miesca pobač klasyčnych tvoraŭ inšych narodaŭ.

Paśla suśvietnaj i hramadzianskaj vajny, biełaruski narod i jahonaja litaratura raźvivajecca ŭ źmiennych palityčnych varunkach. Bolšaja častka biełaruskaha narodu apynułasia pad uładaj balšavikoŭ. Stvorana Biełaruskaja Savieckaja Sacyjalistyčnaja Respublika, dzie da 1929-30 h., u paru h. zv. „nacdemaŭščyny“, biełaruskaja litaratura bujna raście. Pobač sta rejšych biełaruskich paetaŭ i piśmieńnikaŭ, šyroka razhortvajuć tam rabotu novyja talenty, tasujučy novyja mastackija pryjomy. Z novych paetaŭ bujna raźvivalisia tam Michaś Čarot, Uładzimier Duboŭka, Jazep Pušča, Aleś Dudar, Maksim Łužanin, Paŭluk Trus*), Arkadź Markoŭka, Anatol Volny, Babareka, Jazep Padabied, Valery Marakoŭ, Piatruś Broŭka, Chadyka, Piatro Hlebka i inšyja, z piśmieńnikaŭ — Michaś Łyńkoŭ, Michaś Zarecki, Kuźma Čorny, Płaton Hałavač, Symon Baranavych i inšyja.

Nia hledziačy na častyja, dy balučyja „čystki“, ab jakich my nia raz pisali, biełaruskaja savieckaja litaratura, jak „nacdemaŭskaje“ pary, tak i sučasnaje, moža pachvalicca značnymi mastackimi asiahnieńniami, pieradusim u halinie movy, stylu, i technicy pryhožaha piśmienstva.

Biełaruskaja litaratura ŭ miežach Polskaj dziaržavy, mima ciažkich mataryjalnych i palityčnych abstavinaŭ, u jakich paety i piśmieńniki pracujuć, u jakich znachodzicca biełaruskaja vydavieckaja sprava, davoli pamysna raźvivajecca. Z starejšych piśmieńnikaŭ i paetaŭ — pracujuć tut Kazimier Svajak (da 1926 h.*), Vincuk Advažny, Janka Bylina, Kraŭcoŭ Makar, a z małodšych: — Natalla Arsieńnieva, Michaś Mašara, Michaś Vasilok, Maksim Tank, Chviedar Illaševič, z pačynajučych-ža — A. Biarozka, N. Tarasiška, S. Chmara, Anatol Ivers i šmat inšych.

Charaktar tvorčaści hetych zachodnie-biełaruskich aŭtaraŭ pavodle svajho ideolohičnaha nakiravańnia — nacyjanalna-adradženski. U sensie mastackim, za vyniatkam Tanka, Biarozki, Ch. Illaševiča, jakich tvorčaść reprezentuje novyja formy i mastackija pryjomy, a tak-ža z vyniatkam niekatorych „novaściaŭ“ u Mašary, Arsieńnievaj i ŭ Vasilka, tvorčaść ich adbyvajecca ŭ ramkach „starych“ litaraturnych kanonaŭ i srodkaŭ.

Usia biełaruskaja litaratura, pačynajučy ad Bahuševiča, dobra i mocna vyražaje nacyjanalnaje i sacyjalnaje pałažeńnie biełaruskaha narodu, adlustroŭvaje ŭ roznastajnych chvarbach charastvo biełaruskaje pryrody, pa svajmu charaktaru jošć narodnaj, prostaj, zrazumiełaj, sialanskaj, vyznačajecca, asabliva ŭ naviejšuju paru charošaj, sakavitaj, narodnaj movaj, jošć bahatym i vartasnym układam u skarbnicu suśvietnaj kultury.

Adnosna za karotki čas svajho raźvićcia, asiahnuła jana takija mastackija vyšyni, što niekatorymi asablivaściami adpaviadaje vialikim, majučym stahodździ za saboj svabodnaha razvoju, nacyjanalnym litaraturam inšych narodaŭ.

—ič.

*) Pamior u 1929 h., majučy 25 hod.

*) U hetym hodzie 6 maja K. Svajak pamior.

# Zacikaŭleńnie biełaruskaj litaraturaj

U №15 (184) z dnia 15.IV.37 h. polskaha litaraturna-hramadzkaha tydniovika „PION" nadrukavany vialiki, na ŭsiu bačynu, cikavy artykuł p. n. „Mikrokosmos literacki", u jakim haduniec vilenskaha universytetu, małady litaratar, Jury Putramant, zusim pravilna zvaročvaje ŭvahu daśledčykaŭ historyi litaratury na patrebu naležnaha zastasavańnia paraŭnaŭčaj metody ŭ dośledach nad litaraturami, jakija, pavodle jaho dumki, dahetul, dziakujučy pieravazie zainteresavańniaŭ „upływalohičnych" i „biobibliohrafičnych" nia vykanali taje roli, jakuju pavinny byli-b vykanać. Zastasavańnie henaje metody ŭ dośledach nad čužymi małodšymi litaraturami było-b vartasnym, bo dało-b mahčymaść palakom naležna zrazumieć litaraturnaje žyćcio ich prodkaŭ, bo-ž pracesy, jakija nahladajucca ŭ henych maładziejšych čužych litaraturach, majuć svaje adpav.edniki ŭ litaratury polskaj. Z čužych nacyjanalnych litaraturaŭ, dośledy nad katorymi byli-b dla polskaj navuki vartasnymi, aŭtar radzić „źviarnuć asablivuju ŭvahu" na litaraturu biełaruskuju, karystajučy pry hetym z akazii, što biełaruskaja litaratura źjaŭlajecca terytoryjalna bližejšaj palakom, što jana tvorycca blizka ich, a tak-ža z akazii histaryčnaj — biełaruskaja litaratura, pavodle dumki aŭtara, „skończyła właśnie pierwszy, a raczej wstępny etap swego rozwoju, wydała pierwszego poetę".

Paśla hetkich ustupnych razvažańniaŭ, małady polski daśledčyk, starajučysia być objektyŭnym, infarmuje čytača ab niekatorych faktach z historyi biełaruskaj litaratury, zatrymlivajecca daŭžej nad značeńniem vilenskaha bieł. litaraturnaha asiarodka, jaki tvorčaściu Maksima Tanka, hetaha — pavodle jahonaj dumki — „pieršaha paeta", raspačaŭ novy peryjad u bieł litaratury.

I choć aŭtar zaścierahajecca, što nia čujecca paklikanym da hruntoŭnaha abznajamleńnia polskaha čytača z historyjaj biełaruskaj litaratury, a navat z sučasnym jaje stanam, adnak heta nie pieraškadžaje jamu, z vielmi niamnohich palakoŭ, što zajmajuć pozytyŭnaje i pavažnaje da bieł. litaratury stanovišča, vysuvać niekatoryja davoli ryzykoŭnyja i prablematyčnyja ćvierdžańni.

Źvierniem uvahu na niekatoryja z ich. Niemahčyma napr. zhadzicca z aŭtaram, kali biez zaściaroh havoryć, što biełaruskaja litaratura, budučy adna z małodšych, amal u stanie naradzinaŭ nacyjanalnych litaraturaŭ, „skončyła imienna pieršy, a lepš skazać ustupny etap svajho razvoju, vydała pieršaha paeta", — tady, kali navat tolki vilenski biełaruski asiarodak, jak sam ściviardžaje, „u praciahu niekalki hod patrapiŭ stvaryć usie nieabchodnyja ŭ litaraturnym žyćci elementy, patrapiŭ stvaryć svajeasablivy mikrokosmos*), što adkazvaje ŭva ŭsich dadatnich i ŭjemnych detalach vialikim nacyjanalnym litaraturam". Kali takija asiahnieńni maje vilenski biełaruski asiarodak, u praciahu adnosna karotkaha času, to ich, razam z asiahnieńniami inšych bieł. asiarodkaŭ, a hałoŭnaje mienskim, centralnym, trudna zamknuć u adnym „skončanym etapie" bieł. litaratury, a tymbolš šukać dla jaho zahinuŭšych adpaviednikaŭ daŭniejšaj polskaj litaratury. Značyć, choć sprava padziełu litaratury na „etapy", ahułam kažučy,

*) Mikrokosmos— heta svajho rodu maleńki śviet z usimi svomaściami sapraŭdnaha vialikaha, u danym vypadku, litaraturnaha śvietu.

jość adnosnaj, adnak z samych razvažańniaŭ pavažanaha daśledčyka vynikaje, što biełaruskaja litaratura ŭ svaim razvoju prajšła nie adzin etap, a značna bolš, i tak-ža navat z uvahi na pracesy, jakija na jaho vačach u bieł. litaratury adbyvajucca, a i z uvahi na litaraturnuju praduktyju papiarednich pakaleńniaŭ, — ryzykoŭna kazać, što biełaruskaja litaratura znachodzicca „in statu nascendi" (u stanie naradzin).

U śviatle dalejšych razvažańniaŭ aŭtara, u asobnaści razvažańniaŭ nad elementami, jakija ŭ biełaruskaj litaratury charaktaryzujuć „praces pierałamańnia zastareŭšych, zakaścianiełych form paetyckaha adčuvańnia, praces źmieny systemy paetyckich vartaściaŭ na novy, inšy ad dasiulešniaha, kirunak", — jak konkretyzacyja paetyckich symbalaŭ, stvareńnie paetyckaha słova, niepierakładnaść tvorčaści i inš. charakternyja rysy, svomyja pavodle aŭtara vyklučna tvorčaści Tanka, a panašamu i inšym bieł. paetam i piśmieńnikam, — niedarečnym pradstaŭlajecca nam pakazyvańnie aŭtaram dla „pieršaha etapu ' biełaruskaj litaratury jejnaha adpaviednika na litaraturu polskuju pieršaj pałaviny XVI st, a na litaraturu rasiejskuju kanca XVIII st.!

Taksama nadta asabistym pierakanańiem źjaŭlajecca ćvierdžańnie, što byccam biełaruskaja litaratura vydała pieršaha paeta, u asobie Maksima Tanka. Nie admaŭlajučy našamu pieśniaru vysokaha talentu i tych novych vartaściaŭ, jakija znachodzim u jahonym tvorstvie, adnak-ža ćvierdzić, što jon źjaŭłajecca pieršym biełaruskim paetam było-b kryŭdnym dla cełaj plejady našych paetaŭ i piśmieńnikaŭ, jak starejšych, tak i maładziejšych, jak uschodnie, tak i zachodnie-biełaruskich.

U kancy svajho cikavaha artykułu aŭtar koratka spyniajecca nad adnosinami paetyckaha tvorstva biełaruskich pioneraŭ da tvorčaści Tanka, i ŭvažaje ich, jak adnosiny słova i čynu, klikańnie da pracy i jaje realizacyi. Nia budziem zastanaŭlivacca nad tym, ci hetkaja „dyjalektyka" abasnavanaja ci nie, śćvierdzim jadnak, što kali-b šyrej i hruntaŭniej Putramant abznajomiŭsia z biełaruskaj litaraturaj, to adnosiny tvorčaści pioneraŭ biełaruskaj litaratury, tačniej tvorčaści starejšych biełaruskich piśmieńnikaŭ da maładšych, jak adnosiny pryčyny da vyniku, słova da čynu, — byli-b tady inšymi pa druhoj staranie henych adnosinaŭ, imienna znajšoŭ-by aŭtar z hetaj starany aproč Tanka mnoha inšych biełaruskich pieśniarоŭ.

J. Š.

## „Нёс воўк, панясьлі і воўка"

У першых днях чэрвеня сёл. адбыўся ў Менску сход пісьменьнікаў БССР, прысьвечаны, можна сказаць, выкрываньню модных цяпер у Саветах „ворагаў народу". Як ведама чытачом „Шляху Моладзі", ня так даўно паэт Андрэй Александровіч і крытык Алесь Кучар выступілі на бачынах менскай камуністычнай „Звязды" ў нячувана востры спосаб супроць многіх беларускіх савецкіх паэтаў і пісьменьнікаў, называючы іх „ворагамі народу". У выніку іхнай атакі, усе гэныя паэты і пісьменьнікі (Цішка Гартны, Міхась Чарот, Міхась Зарэцкі, Вольны, Сташэўскі, С. Баранавых, Скрыган, Звонак, Хадыка і інш.) выкінуты з Саюзу Сав. Пісьменьнікаў БССР і моцна церпяць.

Але „нёс воўк, панясьлі і воўка". На сходзе пісьменьнікаў, аб якім гутарка, многія з удзельнікаў —

Шарапаў, Пасьлядовіч, крытык Царт—паддалі вострай крытыцы Александровіча, закідваючы яму ня менш цяжкія грахі, як падхалімства, угодніцтва, двурушніцтва і інш. У творчасьці ягонай бачаць контррэвалюцыйныя выпады і „нізкую якасьць“. Прысутны на сходзе Кучар сказаў, што Александровіч „не парваў з ганебным мінулым, двурушнічаў, пакуль гэтага ня выкрылі другія“.

З чаргі дасталося і самому крытыку Кучару. Паводле „Звязды з дня 6.VI, адкуль і бяром гэтыя інфармацыі, „многія факты, аб якіх гаварыў Кучар на сходзе, былі ведамы яму даўно. Але з-за беспрынцыпнасьці характэрнай для Кучара, яны захоўваліся „для больш зручнага мамэнту“.

На сходзе між іншым выступалі пісьменьнікі Чорны і З. Бядуля. Яны гаварылі аб сваім удзеле ў літаратурных аб'яднаньнях „Маладняк“ і „Узвышша“, існаваўшых у сваім часе і прызнаных за варожыя для савецкага ладу, як „нацдэмаўскія“. „Звязда“ вуснамі Лебедзева і Хацкевіча закідае гэтым пісьменьнікам, што яны „зусім недастаткова раскрытыкавалі свае нацыяналістычныя памылкі, якія былі ўласьцівы ім на пэўных этапах творчасьці“.

З палітычнай прамовай выступіў на сходзе пісьменьнік Галавач. Характэрызуючы Александровіча, ён сказаў, што „мінулае абліччa Александровіча акрэсьлена ў яго творчасьці і супрацоўніцтве з ворагамі народу, але гэта замоўчывалася і сам Александровіч усяляк захоўваў ад грамадзкасьці“.

У дыскусіі агонь крытыкі галоўна быў накіраваны „на выкрытага ворага народу Дунца і на адышоўшага ад літаратуры Бэндэ і на справах Аляксандровіча“.

У сувязі з вышэй паданымі інфармацыямі, трэба ўспомніць аб надрукаваным у той-жа „Звязьдзе“ з 3.VI.37 артыкуле К. Паўлава аб адносінах у літаратурным фондзе. Паўлаў піша, што адносіны гэныя „патрабуюць сур'ёзнай увагі сьледчых органаў“, пры тым атакуе перадусім сяброў Управы Саюзу Пісьменьнікаў БССР — Гурскага, Александровіча і былага дырэктара літаратурнага фонду Лейзарава.

„Асабліва ня скупіліся—піша Паўлаў — Александровіч і Гурскі на сродкі для наладжваньня бязлікіх папоек у Доме Пісьменьнікаў. Багема дайшла да таго, што папойкі Александровіч і Гурскі наладжвалі па ўсялякіх выпадках і без апошніх.

У апараце літфонду працавалі і працуюць яшчэ людзі, якія старанна забясьпечвалі ворагаў народу і сябе па ўказаньню тых-жа Лейзарава і Александровіча не шкадуючы дзяржаўных сродкаў“.

У такіх фарбах адмаляваны Александровіч, які нядаўна адважыўся, поўны дзікай зацятасьці і нейкай хваравлівай злосьці, нячувана бяскультурным спосабам выступіць супроць многіх беларускіх пісьменьнікаў, паводле яго думкі, „ворагаў народу“, у якіх хіба сам ня верыў, што яны „ворагі“, і да радоў якіх залічылі і яго іншыя сябры з літаратурнага олімпу.

Характэрна, што Александровіч яшчэ 25 траўня выбраны быў у новае бюро сэкцыі паэтаў Саюзу Пісьменьнікаў БССР, разам з іншымі паэтамі, у тым ліку і народнымі паэтамі Купалам і Коласам .. Тады Александровіч быў, відаць, „бязгрэшным“ і ня выкрытым!...

Цікава ўрэшце адцеміць, што наша ацэна выступленьня Александровіча і Кучара супроць Цішкі Гартнага, Зарэцкага, Чарота і інш. была бадай што прароцтвам.

*Г—к.*

■

# Śviata čechasłavackaje sialanskaje moładzi
## i śviata ukrainskaje vučnioŭskaje moładzi

Čechasłavaččyna — haspadarstva maładoje — paŭstała paśla Usiaśvietnaje vajny. Jość u im, praŭda, nieparazumleńni miž čechami i słavakami, jakija tvorać hetaje haspadarstva, ale ahułam kažučy panuje tam paradak, šanujucca zakony i raźvivajecca demakracyja. Dla nas najcikaviejšym budzie toje, što ŭ Čechasłavaččynie sialanie, mima taho, što stanoviać tolki 39 pracentaŭ nasielnictva, majuć najbolšyja ŭpłyvy na ŭładu. Stałasia heta dziela taho, što sialanstva ŭ Čechasłavaččynie vielmi dobra sarhanizavana. Sialanskaja Partyja jość tam najbolšaj palityčnaj arhanizacyjaj. Partyja heta maje bolš 1,500,000 siabroŭ, katoryja akuratna apłačvajuć siabroŭskija składki. Vydaje jana 7 štodziennych hazet, 42 tydnioviki i niekalki časapisaŭ miesiačnych. U presie i sakratarjacie pracuje bolš 3100 płatnych asob. U sojmie maje 46 pasłoŭ, u senacie 23 senataraŭ, a ŭ uradzie 4 ministraŭ, na čale z premjeram (słavakom). Da sialanskaj partyi naležyć tak-ža 50,000 žančyn. Maje jana vialikija ŭpłyvy badaj na ŭsio ekanamičnaje žyćcio. Apráča arhanizacyi palityčnaj, sialanstva ŭ Čechasłavaččynie maje svaje arhanizacyi haspadarčyja i kulturna-aśvietnyja; najbolšaj z ich jość arhanizacyja moładzi, zvanaja „Respublikanskim Dorastam," da jakoha naležyć bolš 130.000 moładzi.

22.V sioleta čechasłavackaja sialanskaja moładź, z pryčyny 30 uhodkaŭ isnavańnia „Republikanskaha Dorastu," ładziła ŭ stalicy Čechasłavaččyny — Prazie — vialikaje śviata — źjezd moładzi, u jakim pryjmała ŭdzieł bolš 100.000 sialanskaje moładzi. Źjezd tryvaŭ dva dni. U pieršy dzień — 22.V — adbyŭsia vializarny pachod, mitynh i artystyčna-himnastyčnyja vystupleńni moładzi, a na druhi dzień — 23.V. — adkryćcio haspadarčaj vystaŭki, jakaja ilustravała pracu sialanskaje moładzi. Pachod tryvaŭ 4 hadziny. Na čale jaho jechała sialanskaja końnica, likam da 2.000 asob i 1.000 rovarystaŭ (cyklistaŭ) z aznakami svaje arhanizacyi, a dalej išła moładź u narodnych uborach. Cely ŭrad, dyplomaty, pradstaŭniki presy, delehacyi moładzi z zahranicy, razam z 300.000 hladzielnikaŭ pilna sačyli za pachodam i padziŭlali jahony paradak. Na śviacie moładzi byŭ prysutny taksama i prezydent Čechasłavackaj Respubliki dr. Beneš.

Źjezd čechasłavackaj sialanskaj moładzi adbyŭsia pad kličam abarony demakracyi i sialanskaj ŭłady.

6.VI sioleta ŭ Lvovie na placu „Sokiła-Bat'ka" adbyłosia vialikaje śviata ukrainskaje vučnioŭskaje moładzi. Pryjmała ŭ im učaćcie 2.130 vučniaŭ i vučanic. Śviata pačałosia defiladaj — pachodam vučniaŭ, a paśla byli artystyčna-himnastyčnyja popisy. Ukrainskaje hramadzianstva, naležna acaniajučy moładź, cikavicca jejnym ŭzhadavańniem, apiakujecca joj i na śviata moładzi źjaviłasia ŭ liku bolš 10,000 asob.

Śviata ukrainskaje moładzi, a pieradusim śviata sialanskaje moładzi ŭ Čechasłavaččynie, jaje arhanizacyja pavinny być dla nas prykładam. I nam nieadkładna treba jznoŭ pačać starańni, kab stvaryć i zalehalizavać svaju biełaruskuju kulturna-ŭzhadavaŭčuju arhanizacyju moładzi.

*jn.*



*М. Вольны*

# Усход

Наўкола была цёмная ноч.. У лесе шумелі сасонкі і дрыжэла асіна.

Я йшоў і глядзеў туды, дзе ўсходзіла сонейка. Далёка дзесь гукала сава. Час-ад-часу трэскалі і ападалі сухія сасновыя сукі, пужаючы птушак.

Сэрца нейк балюча сьціскалася і паўставала пытаньне: ці дайду я да свае мэты?..

— — — — — — — —

Цемра на небе памалу стала расходзіцца. Ясныя зоркі хутка зьнікалі. Ужо і птушкі пачыналі раньнія трэльлі. Далёка дзесь нясьліся нават гукі пастушынай жалейкі. А сонечнае полымя ўсё ярчэй і ярчэй разгаралася...

— — — — — — — —

Будзілася ўжо ад сну і шэрая, родная, мілая беларуская вёска. Будзілася да працы, да да жыцьця...

Нізенькія беларускія хаты, ўквечаныя жывымі букетамі зялёных дрэў, купаліся ў залатым блеску ўсходу.

— — — — — — — —

Я іду да цябе, ясны ўсход!

Пачакай!

Я раскажу табе пра гора і радасьць, пра шчасьце і нядолю роднага народу і Краю!.

Мы ўжо прачнуліся і ідзём!

Ідзём да Красы, да Сонца, да Справядлівасьці і Шчасьця!..

Мы ідзём!...

Латвія.



Я. ДРАЗДОВІЧ. БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА ВЯСНОЙ.

# Як старацца адсрочкі ваеннай службы.

Служба ў войску не аднаму з моладзі крывіць часамі жыцьцёвыя пляны. Бывае нават так, што спаўненьне гэтага дзяржаўнага абавязку ў нармальным часе проста немагчымае і дзеля гэтага вайсковыя ўлады, у разе патрэбы, даюць навабранцам адсрочкі (адтэрмінаваньне).

І так адсрочку чыннай вайсковай службы могуць атрымаць: 1. адзінокія карміцелі сям'і і 2. ўласьнікі гаспадаркі з спадку. Гэткую адсрочку можна атрымаць толькі на адзін год. Пасьля году, калі перашкоды апраўдываючыя адсрочку далей існуюць, можна атрымаць адсрочку дальшую, але толькі да 23 га году жыцьця новабранца.

Адзінокім карміцелем сям'і ўважаецца: 1. сын няздольных да працы бацькоў, 2. родны або стрыечны брат асірацелай, няздольнай да працы сям'і і 3. унук няздольных да працы дзядоў, калі яны ня маюць здольных да працы дзяцей. Адсрочку можна дастаць толькі тады, калі ўтрыманьне вышэйназваных асоб залежа выключна ад асоб пакліканых у войска і калі яны гэты абавязак сапраўды спаўняюць.

Уласьнікамі гаспадарак з спадку ўважаюцца тыя асобы, якія дасталі ў спадку гаспадарку здольную пражывіць адну сям'ю ды на колькі вядуць гэту гаспадарку як адзіны спосаб утрыманьня.

Асобы, якія думаюць старацца адсрочкі першы раз як адзінокія карміцелі сям'і, або таму, што атрымалі ў спадку гаспадарку, найпазьней цераз 14 дзён пасьля прызнаньня іх здольнымі да чыннай ваеннай службы павінны падаць у сваё староства адпаведную просьбу з копіяй пастановы рэкруцкай („поборова") камісіі. Калі-б варункі, якія даюць права старацца адсрочкі, паўсталі пасьля названых 14 дзён, дык просьбу трэба падаць не пазьней як цераз 4 тыдні ад часу, калі заінтэрэсаваны даведаўся аб гэтых варунках. Просьбы такія могуць падаваць самі навабранцы, а так-жа іхнія сем'і, г. зн: бацька, маці (шлюбная ці няшлюбная), браты, сёстры, дзяды. Да просьбы аб адсрочцы ваеннай службы адзінокага карміцеля сям'і трэба далучыць г. зв. сьпісок на падставе сьпісу насельніцтва, або мэтрычных кніг. У сьпіску трэба пералічыць усю сям'ю навабранца, бяз увагі на тое, ці яна жыве разам ці асобна. Калі такога сьпіску ня можна далучыць, дык трэба пастарацца аб адпаведняе пасьведчаньне з гміны і мэтрыкі ўсіх членаў сям'і.

Хто стараецца адсрочкі ваеннай службы таму, што дастаў, у спадку зямельную гаспадарку, той хай далучыць: 1. пасьведчаньне, што дастаў гаспадарку, 2. пасьведчаньне аб вялікасьці (колькі гэктараў) і якасьці (гаспадарка, млын, гародніцтва і г. д.), 3. пасьведчаньне гміны аб тым, што навабранец вядзе гаспадарку сам ды што даходу з гэтае гаспадаркі хапае на пражыўленьне аднэй сям'і і не перавыжшае такога даходу ў тры разы.

Зазначыць пры гэтым трэба, што калі хто дабіваючыся для сябе ці для другой асобы адсрочкі ці звальненьня ад ваеннай службы ўжывае фальшывых доказаў, той можа быць пакараны турмою да трох гадоў.

*Нов. С.*



Śv. † p.

## ADVARD STALČYNSKI

aktyŭny dziajač na biełaruskaj adradženskaj nivie, adzin z zakładčykaŭ Hurtka Biełaruska Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Žojdziškach, Vialejskaha pav., šmat-hadowy sakratar i biblijatekar jaho, zdolny artyst biełaruskaj sceny, akuratny padpiščyk „Šlachu Moładzi“, spraviadlivy, sumlenny, zaŭsiody žyćciaradasny i naahuł spačuvajučy na ludzkuju niadolu, skončyŭ žyćcio trahična ŭ poŭnym raśćviecie sił,u časie nieščaślivaha vypadku ŭ młynie 21.V.1937 h.

Česć Jahonaj pamiaci!

*B. siabry BIHiK u Žojdziškach*
*i Redakcyja „Šlachu Moładzi“.*

## Z KRAJU

# Prajezdam praz Prudy

Niedaloka Maładečna, ŭ bok Vilni, 104 kilametry, razłažyŭsia zaścienak Prudy. Try chaty ścisnutyja adna da adnej i adnačasna bližejšyja chutary tvorać jak-by rassypanuju viosku. Voś da adnej z bližejšych chat zachodžu. Haspadar, stary mikałajeŭski žaŭnier, hadoŭ z pad 70, siadzić pad chataj, u ciańku na łaŭcy i dremie. Haspadynia ŭ sadku (try dreŭcy) šaruje žbanki. Navokał pusta, nidzie nikoha nia vidać. Zachadžu, prašu małaka. — „Karoŭka adna, małaka, panok, šmat nie mahu dać, ciapier im tolki my i žyviom.“ Hutarka pavoli pačynaje zaviazyvacca. Zakidyvaju pytańniami.

— Žyviom, panok, jak sami bačycie, biedna, voś hetyja try chatki heta ŭsie try braty i kožny z nas maje tolki pa adnamu hektaru ziamli. Sami možacie sabie pradstavić, što za žyćcio na hetakim kavałku ziamli, a da hetaha jašče na dabavak ziamli piaščanaj, nieŭradžajnaj. Z adnej ziamli trudna vyžyć! — Dyk jość tut majontak, žyvie ŭ im niejki inžynier proźviščam Baturevič i my ŭ jaho zarablajem. Tak žančyna ŭletku, za cely dzień, na svajej jadzie, zarobie ŭsiaho 40 hrašoŭ. Zatoje ŭ čas sienažaci i žniva—pa załatoŭcy. Trudna, ale hodzišsia, bo treba žyć. I voś z hetych mazolnych hrašakoŭ majem sol, hazu i padatki. Šmat paciarpieli my ŭ vajnu. Voś, bačycie, akopy, tut byŭ samy razhar. Stralali, palili i ludziej bili.

Chata pravasłaŭnaja. Pytajuś tady, dzie carkva i ci kazańni ŭ joj havorać pabiełarusku.

Da carkvy ŭ nas bliska—6 kilametraŭ, u Zaśkievičach. Kazańni baciuška havoryć parasiejsku, ale z nami hutaryć pabiełarusku. Škoła ŭ nas taksama šešć kilametraŭ ad domu. Dzieci małyja bajacca i kožny raz treba ich padvodzić.

— Hazet my nia čytajem, bo niama zašto vypisyvać. Synok dyk chodzić ŭ młyn, tam mielnik vypisyvaje niejki „Dzieńnik.“

— Ci viedajecie, što na śviecie robicca?

— Wiedajem, panok, pra Hišpaniju, što tam bjucca. Voś i my čakajem palepšeńnia svajej doli. Viedajem, što dzieś u Paznanščynie strašna paniščyŭ hrad zasievy, što maje być nieŭradžaj.

— Ale ci viedajecie, što dzieicca ŭ našym Krai? Jak žyvuć braty — Biełarusy, jak zmahajucca za lepšaje žyćcio i rodnaju movu i školu dla dzietak?

— Nie, nia viedajem.

— A treba viedać, treba čytać svaje biełaruskija hazety dy knižki i ich raspaŭsiudžyvać, bo tolki biełaruskaja hazeta nam Biełarusam niasie karyść. U joj my bačym i samych siabie, i inšych i ceły śviet.

Ahułam kažučy ŭ Prudoch — zusim mała śviedamyja Biełarusy. Brakuje im hazetaŭ, jakija pavialí-b ich šlacham śviedamaści i kultury da lepšaha zaŭtrašniaha dnia. A kolki jšče jość u nas hetkich Prudoŭ! Oj jašče treba pracavać, pracavać i pracavać!

S. Žem-do.

---

## Na pamiatnik Antonu Levickamu ŭ Vilni achviaravali:

R. Šyrma 50 hr., Branisłaŭ Damuć 50 hr., Gudziński Jan 50 hr., Saŭka Stan. 30 hr., Damuć Jazep 30 hr., Hapanovič Jazep 10 zł., Ks. J. Hermanovič 7 zł., A. Vojcik 1 zł., M. Mancevič 2 zł., V. Bahdanovič 1 zł., Š. Zak 2 zł., Jury Sabaleŭski 2 zł., Jazep Pituška 1 zł., Paulski Uładzimier 5 zł., Duniec Uładzimier 5 zł., Dr. J. Malecki 3 zł., A. Lekant 1 zł., V. Kita 1 zł., Śviašč. I. Bahatkievič 50 hr., A. Jehier 1 zł., N. N. 2 zł., P. Ščastny 1 zł., V. Rusak 2 zł., M. Ancukievič 2 zł., M. Pieciukievič 2 zł., V. Šutovičanka 1 zł., X. 1 zł, Šutovičanka 1 zł., P. Č. 40 hr., A. Katkavičanka 50 hr., Š. 1 zł., Hanna Šutovičanka 5 zł., Jan Skrycki 5 zł., Jazep Jarmałkovič 50 hr., M. Kitkoŭski 1 zł., H. Łoś 1 zł., Jahor Popko 1 zł., Ks. Michał Šałkievič 5 zł., Śviašč. V. Anoška 3 zł., Dr. St. Hrynkievič 10 zł, Mgr. M. Škialonak 5 zł., M. Kazarovič 1 zł., T. Hutarova 2 zł., Ks. V. Šutovič 5 zł., M. Gieś 20 hr., Piotra Kajkoŭski 1 zł., M. Čantarycki 1 zł., Ks. V. Borysevič 2 zł.

Usiaho razam atrymana dahetul na pamiatnik 251 zł. i 80 hr. Sumy hetaj biazumoŭna na pakryćcio koštaŭ budovy pamiatnika mała, dziela heta vietliva prosim usich, chto nie złažyŭ dahetul achviary na budovu pamiatnika na mahile słaŭnaha našaha biełaruskaha paeta, piśmieńnika i dziejača Antona Levickaha — Jadvihina Š., zrabić heta jak najchutčej. Kožnaja, choć-by i nievialikaja achviara, budzie padtrymańniem i dokazam, što biełarusy ŭmiejuć šanavać pamiać svaich vialikich i zasłužanych ludziej. — Pryhatavaŭčaja praca da budovy pamiatnika, jak my ŭžo pisali, pačałasia. Dumajem, što kožny biełarus raspačatuju ŭžo spravu padtrymaje.

*Usim achviaradaŭcam składajem ščyruju padziaku.*

*Red. Kalehija „Šlachu Moładzi“.*

# Беларуская Філія Дзяржаўнай Гімназіі ім. Ю. Славацкага

**раней БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ — Вільня, Вострабрамская вул. 9**

Беларуская Філія Дзяржаўнай Гімназіі ў Вільні зьяўляецца цяпер адзінай сярэдняй беларускай школай у Польскай Дзяржаве. Прыймае яна моладзь (хлапцоў і дзяўчат) у І-шую клясу, якія будуць мець ня менш 12 і ня больш 16 гадоў да 1-га верасьня 1937 году і якія скончылі 6 ці 7 аддзелаў пачаткавай школы.

Прыймо і экзаміны будуць адбывацца вясной, пачынаючы ад 16-га чэрвеня і восеньню, перад пачаткам школьнага году. Тыя кандыдаты, каторыя прадставяць пасьведчаньні аб сканчэньні 6 ці 7 аддзелаў пачаткавае школы, здаюць пры паступленьні ў І-шую (былую ІІІ)клясу толькі паверачны экзамен з польскае мовы, арытмэтыкі і географіі. Кандыдаты, якія ня маюць успомненых пасьведчаньняў пачаткавае школы, здаюць поўны экзамін у абыйме 6-ці ад. пачат. школы.

У ІІ-гую клясу прыймаецца моладзь пасьля экзаміну з усіх прадметаў у абыйме праграмы І-шае клясы гімназіі і калі на 1-га верасьня 1937 г. будзе мець ня менш 13 і ня больш 16 гадоў. Кандыдаты, якія скончылі сёлета 7 аддзелаў пачат. школы, могуць здаваць экзамін у ІІ клясу толькі з дазволу Куратарыі Віл. шк. вок.

Да заявы аб уступленьні ў гімназію трэба далучыць: 1. мэтрыку, 2. школьнае пасьведчаньне, 3. пасьведчаньне аб прышчэпе воспы 4. дэклярацыю аб тым, што кандыдат беларус, ды пераслаць на Р.К.О. (поштай) 10 зл. за экзамен на гэткі адрыс: Filija białoruska Państw. Gimn. im. J. Słowackiego w Wilnie P. K. O. № 703.304.

Пры гімназіі ёсьць хлапцоўскі і дзяўчацкі інтэрнаты. Незаможныя вучні, якія будуць добра вучыцца, могуць быць звольнены ад аплаты за ўтрыманьне.

Беларуская гімназія(філія) мае такія самыя правы як і польскія дзяржаўныя гімназіі.

*Кожны беларус павінен імкнуцца да таго, каб вучыцца ў сваіх беларускіх школах!...*

## Fachovyja licei.

Ad pačatku nastupnaha 1937-38 školnaha hodu buduć arhanizavacca ŭ PolšČy licei hetkich kirunkaŭ: pramysłovyja, handlovyja administracyjnyja, ziemlarobskija i chatnie-haspadarskija.

U pramysłovych licejach buduć typy: pramysłova-techničnyja, mechaničnyja, darožnyja, vodna-melijoracyjnyja i kamornickija. — Usie pramysłovyja licei pryznačany dla chłapcoŭ, a dla dziaŭčat tolki škoła kravieckaja. Pryjmać buduć u licei kandydataŭ, jakija končyli himnaziju zrefarmavanaha typu. Pry tym treba budzie składać ekzamin z matematyki i rysunkaŭ.

Handlovyja licei buduć ahulnyja (2 hady) i 3-ci hod (nieabaviazkavy) — specyjalizacyja. Ustupny ekzamin z polskaj movy.

Administracyjnyja licei, taksama jak i handlovyja — 2 i 3 hadovyja: skarbovyja, samaŭradavyja, čyhunačnyja i paštovyja. Ustupny ekzamin z polskaj movy.

Ziemlarobskija licei buduć dla chłapcoŭ i dziaŭčat, navuka 3 hady. Ustupny ekzamin z biolohii i chimii.

Chatnie-haspadarskija licei — pryhataŭlać majuć moładź da pracy ŭ internatach, sanatorjach, prytułkach.

Ekzaminy i pryjmo buduć adbyvacca viasnaju, paśla 20-ha červienia i vosieńniu, pierad pačatkam školnaha hodu.

Apłata ŭsiudy jak i ŭ himnazijach i hetkija samyja pravy.

# ХРОНІКА

## З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

— Канфіскаты. 29 мая сёлета Віленскае Гарадзкое Стараства сканфіскавала цэлы наклад прад двума тыднямі выданага беларускага лемантара „Zasieŭki". Ёсьць гэта вельмі цяжкі ўдар для беларусаў, бо, не гаворачы ўжо аб затраце вялікіх коштаў, фактычна пазбаўляе магчымасьці беларускіх дзяцей мэтодычна вучыцца сваей роднай граматы. — 10.VI тыя-ж улады сканфіскавалі № 9 беларускага гаспадарчага часапісу „Самапомач" за артыкул: „На Дзень Коопэрацыі".

— Беларусы і Кангрэс Нац. Меншасьцяў. Сёлета Кангрэс Нацыянальных Меншасьцяў адбудзецца ў Лондыне 14—15.VII. Ад Беларускага Нац. Камітэту дэлегатам на гэты Кангрэс выбраны Кс. рэд. Ад. Станкевіч, які ўжо выслаў на Кангрэс прызначаны яму рэфэрат на тэму: „Этычныя падставы культурна-нацыянальных правоў нацыянальных меншасьцяў".

— Сканфіскавалі і „уможылі". Тыя ўсе беларускія дзеячы, у якіх падчас рэвізіі 28.XI.36 забралі дакуманты і кніжкі і якім паліцыя іх не зьвярнула, 10.VI.37 атрымалі з пракуратуры паведамленьне, што іх справа „уморжона", а затрыманыя дакуманты і кніжкі сканфіскаваныя.

— Беларуская дэлегацыя. 8.VI.37 беларуская дэлегацыя, у складзе: рэд. Я. Пазьняка, Р. Шырмы, М. Касьцевіча і Жыткоўскага адведала Міністэрства Асьветы ў справе адчыненьня беларускага ліцэю ў Вільні. Дэлегацыя нічога пазытыўнага не асягнула і справа ліцэю астаецца нявырашанай.

— 20-я ўгодкі сьмерці М. Багдановіча. Сёлета ў канцы траўня мінула 20-ць год ад сьмерці слаўнага беларускага паэта Максіма Багдановіча. З гэтай прычыны Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры УСБ ладзіла ў залі віленскага унівэрсытэту акадэмію. Рэфэрат аб творчасьці паэта прачытаў А. Луцкевіч. Творы паэта дэклямавалі: Г. Сухая і Ф. Аляхновіч. Акадэмія прайшла паважна.

— Пілігрымка беларусаў каталікоў ў Кальварыю адбылася сёлета 6 г. м. Апрача беларусаў Віленскіх, былі на пілігрымцы і беларусы з бліжэйшых і дальшых ваколіц. Казаньні да пілігрымаў гаварылі на перамену: Кс. Супэріор Я. Гэрмановіч, Кс. Ад. Станкевіч і уніяцкі сьвяшчэньнік з Дэлятыч В. Аношка.

— Сход Беларускага Крэдытнага Коопэратыву (Банку) адбыўся 23 траўня сёлета, шырэй аб гэтым напішам у наступным нумары.

— Сёлетнія беларускія матурысты. Матуральныя экзаміны ў Беларускай Філіі Дзяр. Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні кончыліся 22 мая. Да экзаміну было дапушчана 29 асоб, здало 26 наступных чалавек: Благадыр Надзея, Варанец Л., Воўк-Левановіч Аўгеня, Груздз Валентына, Дук Вольга, Жамойціна Людзьміла, Канцэвіч Сяргей, Леўковіч Ніна, Макарэвіч Барыс, Мінэрвін Віталь, Муха Мікалай, Мялешка Тодар, Пазьняк Вольга, Поняльніцкая Зофія, Паўль Кастусь, Путрынкевіч Вера, Сьвірская Галіна, Стаўбунік Вячэслаў, Стома Уладзімер, Хруцкая Кіра, Ярэміч Валентына, Булгак Уладзімер, Шастак Павал, Чэраповіч Аляксандар, Негерыш Іван і Скрыцкі Браніслаў. Апрача гэтых ёсьць яшчэ беларускія матурысты і з польскіх гімназіяў, бо паводле афіцыяльных статыстычных аблічэньняў на абшары Віл. Шк.Кураторы (ваяв.Віленскае, Наградзкае і часьць Беластоцкага) ў дзярж. гімназіях сёлета запісалася беларусамі 496 чалавек.

Усім беларускім матурыстам жадаем удачы ў далейшай навуцы і заклікаем да працы на культурную ніву сярод беларускае моладзі.

— М. Забэйда-Суміцкі — ведамы артыст сьпявак выступаў з канцэртам беларускай песьні ў Беластоку дня 6 чэрвеня, а 8 чэрвеня сьпяваў беларускія песьні праз польскае радіо з Варшавы. Сьпяваў так-жа М.З.-С. вельмі прыгожа беларускія песьні 27.V на канцэрце на адбудову катэдры ў Вільні.

— Беларускія скаўцкія віленскія дружыны прымуць сёлета ўдзел у скаўцкім зьлёце-зьезьдзе ў Валакумпях каля Вільні, які пачнецца 25 г. м. і будзе трываць два тыдні.

— З выдавецтва. Выйшаў з друку новы каталёг (кнігасьпіс) беларускіх кніг кнігарні „Пагоня" (Вільня, Завальная 1). Цэны ўсіх выдавецтваў пададзены ў каталёзе паводле апошняга абніжэньня. Акрамя часьці каталёгавай, пададзены яшчэ перагляд важнейшых беларускіх інстытуцый у Вільні.

— Беларусы ў Латвіі. 9.V сёл. беларусы ў Дзьвінску, у памешканні II-гой дзьвінскай дзярж. гімназіі, пры якой ёсьць беларускі камплект ладзілі „Дзень Маці". Рэфэрат на тэму: „Маці і сямейка" прачытаў былы дырэктар бел. гімназіі ў Дзьвінску грам. С. П. Сахараў. Пасьля грам-ка С. С. Карнаухава-Саўкант прыгожа прадэклямавала паэтычны абразок „Любоў маці". На заканчэньне сьпеваў беларускі хор пад кіраўніцтвам грам. Пётры Заліўскага.

# USIACYNA

— U kancy m-ca maja nad central-naj častkaj Polščy (kieleckaje vajavodztva) abarvałasia chmara. Z hetaj pryčyny paŭstała strašennaja pavodka, u časie jakoj źhinuła bolš 30 asob. Straty pryniesienyja pavodkaj abličajuć na niekalki milijonaŭ złotaŭ. — Delehat Polščy ŭ Lizie Narodaŭ prapanavaŭ vyklučyć Abisyniju z liku siabroŭ Lihi Narodaŭ. Prapanova adnak heta pravaliłasia i jaje, zusim pravilna, stydajucca navat niekatoryja palaki... — Prezydent I. Maścicki na pačatku červienia jeździŭ u Rumyniju. U kancy červienia pryjaždžaje ŭ Polšč karol Rumynii.

— U SSSR adbyvajucca niazvyčajnyja padziei. „čystka" idzie za „čystkaj". Ab aryštavanym niadaŭna b. načalniku G.P.U. Jahodzie chodziać roznyja słuchi, i jon byccam dzieś užo zahinuŭ. Načalnik palityčnaha addziełu čyrvonaj armii Hamarnik zastreliŭsia. Paśla hetaha byli aryštavany, asudžany na śmierć i 12.VI.



Maršał Tuchačeŭski.

rasstralany: słaŭny saviecki maršał Tuchačeŭski i vydatnyja vajennyja kamandziry: Jakir, Ubarevič, Kork, Ejdeman, Feldman, Primakoŭ i Putna. Usie jany zajmali najvyšejšyja stanoviščy ŭ savieckaj armii i ŭsie jany byli abvinavačany ŭ špijonstvie na karyść buržuaznych dziaržaŭ. Z Miensku „vyčyścili" špiarša hieneralnaha sakratara Kam. Partyi Biełarusi Hikału, a ciapier staršyniu ŭradu BSSR — Haładzieda. Zvolnili taksama z Bieł. Akademii Navuk praf. Piotuchoviča. Miesca Hikały zaniaŭ Šaranhovič, a miesca Haładzieda — 2-hi pamocnik sakratara KPB — Vaŭkovič.

— U Halandyi adbylisia vybary ŭ parlamant. Bolšaść mandataŭ zdabyli demakraty.

— Dasiulešni ŭrad u Anhlii z Bolduin'am na čale padaŭsia ŭ adstaŭku. Novy ŭrad, jaki byccam budzie bolš rašučym, sarhanizavaŭ N. Čemberlen.

— U Hišpanii zabiŭsia ŭ katastrofie aerapłanu paŭstancki pavadyr hien. Mola, vojska jakoha nastupaje na Bilbao. — Urad Kaballero padaŭsia ŭ adstaŭku. Novy ŭrad z 9 asob stvaryŭ sacyjalisty praf. Negrin. U skład uradu Negrina ŭvachodziać: 3-ch sacyjalistaŭ, 2-ch kamunistaŭ (ministry: aśviety i zdaroŭja) i pa adnamu pradstaŭniku: levych respublikancaŭ, respublikanskaj unii, levych katalończaŭ i baskijskich nacyjanalistaŭ.

— 29.V. niamiecki vajenny karabiel „Dojčland" ujechaŭ na vodnuju terytoryju hišpanskaha ŭradu. Z hetaj pryčyny ŭradavyja hišpanskija samaloty abkidali jaho bombami, ad katorych źhinuła na karabli bolš 20 asob i 80 raniena. Za heta niamieckija vajennyja karabli abstralali z harmat hišpanskaje partovaje miesta Almeryju, zabivajučy kala 20 asob i pryčyniajučy šmat škody. U chviliny hetyja šmat chto dumaŭ, što raspačniecca adkrytaja novaja suśvietnaja vajna, ale paśla žyćcio papłyło dalej dasiulešniaj kalainoj.

— U Japonii dasiulešni ŭrad vajennych kruhoŭ padaŭsia ŭ adstaŭku. Novy ŭrad reprezentuje parlamant.

— Adnosiny miž Katalickim Kaściołam i Niamieččynaj štoraz bolš napružvajucca.

— U kancy traŭnia siol. adkryta ŭ Paryžy Suśvietnaja Vystaŭka, u jakoj pryjmaje ŭdzieł 48 dziaržaŭ.

— 22 traŭnia siol. vyjechała na paŭnočny polus savieckaja navukovaja ekspedycyja i ŭžo jość na miescy. Šyrej ab joj napišam u nastupnym numary.

— Niadaŭna na Paleśsi kala Davidharadka adkryli vialikija zaležy aluminavaj hliny (kaolinu).

— 5.VI. siol. adbyłosia adkryćcio nova-zbudavanaj čyhunki, jakaja łučа Kabylnik i voziera Narač.

Pierasyłka apłačana ryčałtam

# PAŠTOVAJA SKRYNKA

S. Žem-do. Karespandencyju Vašu achvotna drukujem i prosim pisać čaściej.

Алесю Гацуру: Пераданыя нам Вашы творы разглядзелі і пакульшто брацца за пісаньне большых рэчаў, як „Жыцьцё селяніна" ня радзім. Вы яшчэ не апанавалі добра беларускае мовы і тэхнікі вершу. Над гэтым трэба папрацаваць больш, прыглядаючыся да тэхнікі вершаў старэйшых беларускіх паэтаў. Пішыце спачатку вершы карацейшыя. Бо іначай у Вас будуць расьці доўгія „паэмы", якія будуць падобнымі хутчэй да хронікі штодзенных выпадкаў, але ніколі ня будуць мець нічога супольнага з паэзіяй. Зьвярніце ўвагу на вобразнасьць мовы, без чаго ня можна тварыць і адначасна прарабляйце творы іншых паэтаў, але не дзеля таго, каб на іх узаравацца, насьледаваць, а каб узбагаціўшыся практыкай, ведай папярэдніх і сучасных паэтаў, маглі Вы стварыць сваё, новае.

Т. Хвайніцкаму: Верш „Любі" вельмі ня ясны. Можна любіць свой край, людзей, мову, але ня можна любіць тое, што гняце, што перашкаджае жыць, як „нядолю" і інш. Да лепшых вершаў належыць „Прайшлі гады", але заканчэньне слабое. Калі прайшлі гады, гады ў паняверцы, дык ня праўда, што яны нічога нас не навучылі: ня відаць можа сонца, дык прынамся ведае народ і сам аўтар, якой дарогай да яго йсьці. Працуйце далей над формай і над думкай.

Тацянцы: Верш Ваш, крыху паправіўшы, з прыемнасьцю зьмяшчаем. Бачым у ім задаткі сапраўднага паэтыцкага таленту і даволі выробленую форму. Радзім Вам пісаць як найбольш і зьвярнуць асаблівую ўвагу на тварэньне паэтыцкіх абразоў, высьцерагаючыся абстракцыйнага зьместу.

I. Šulvinskamu: Prośbu spaŭniajem. Časapisy vysyłać budziem.

Я. Лосю: „Шлях Моладзі" высылаем Вам праз увесь час акуратна. Пісьмо атрымалі, верш адзін паправіўшы друкуем.

Мік. З.: Вершы атрымалі, у меру магчымасьці будзем друкаваць.

Р. Бульбаеду: Апавяданьне „Сярод чужых", згодна з просьбай, перадалі ў рэд. „Калосься." „Жыцьцё бел-інтэлігента" надрукуем у наступным нумары „Шляху Моладзі."

Я. П.: „Выдра," як па сваей тэматыцы, так і па апрацоўцы слабая. Калі будзе аднак бракаваць нам матарыялалу пастараемся, паправіўшы яе, надрукаваць. Агулам пісаць Вы можаце, і трэба, каб Вы пісалі так, як Вы думаеце, г. зн. прозай і рэчы карoткія. З беларускіх кніжак радзім Вам перадусім прачытаць зборнік расказаў Ядвігіна Ш.—„Бярозка," „Казкі жыцьця"—Тараса Гушчы і ягоныя-ж „Родныя зьявы." Што напішыце, прысылайце нам. Беларускі Музэй у Вільні прыймае кожную манэту. Просьбу ў іншыя рэдакцыі перадалі.

## Krychu śmiechu.

### Aščadny.

Škoty, jakija žyvuć u Anhlii, słyvuć z vialikaj aščadnaści.

Adnaho razu siadaje škot u aŭtabus z vialikim miaškom i kuplaje dla siabie bilet. Kanduktar adnak kaža, što treba kupić jašče bilet i na bahaž. Pačuŭšy heta, škot raźviazaŭ miašok i kaža „Vyłaź, synku, usioroŭna treba płacić!"

* * *

„Viedaješ, brat, prychodź siańnia da mianie na abied!" — zaprašaje student svajho siabru.

„Moža lepš zaŭtra, bo na siańnia mianie ńižo zaprasiła tvaja matka".

*Часапіс рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.*

*Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я.Найдзюка і А. Шутовіча.*

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар Я. НАЙДЗЮК.